Год IV. Травень. № 5 (40)

# Шлях Моладзі

…„Падымайся з нізін, сакаліна сям'я,
Над крыжамі бацькоў, над курганамі!
Занімай, Беларусь маладая мая,
Свой пачэсны пасад між славянамі."
ЯНКА КУПАЛА.



ВІЛЬНЯ, 1932 г.

Беларуская Друкарня ім. Францішка Скарыны — Вільня, Завальная вул. № 6

## ЗЬМЕСТ № 5.



## BIEŁARUSKAJA ABECEDA.

Беларуская абэцэда.

| | | |
|---|---|---|
| A, a — A, a. | I, i — I, i. | S, s — C, c |
| B, b — Б, б. | J, j — Й, й. | Ś, ś — СЬ, сь. |
| C, c — Ц, ц. | K, k — K, к | Š, š — Ш, ш. |
| Ć, ć — ЦЬ, ць. | L, l — ЛЬ, ль. | T, t — T, т. |
| Č, č — Ч, ч. | Ł, ł — Л, л. | U, u — У у. |
| D, d, — Д, д. | M, m — M, м. | Ŭ, ŭ — Ў, ў. |
| E, e — Э, э. | N, n — H, н. | V, v — B, в. |
| F, f — Ф, ф. | Ń, ń — НЬ, нь. | Y, y — Ы, ы. |
| G, g — Г, г. | O, o — O, o. | Z, z — З, з. |
| H, h — Г, г. | P, p — П, п. | Ž, ž — Ж, ж. |
| Ch, ch — X, x. | R, r — P, p. | Ź ź — ЗЬ, зь. |



# „Шлях Моладзі"

МЕСЯЧНАЯ ЧАСОПІСЬ БЕЛАРУСКАЙ МОЛАДЗІ.

Цана асобнага нумару 30 гр.

Падпіска на 3 месяцы . . . . 50 гр.
„ на паўгода. . . . . . 1 зл.
„ на год . . . . . . . 2 зл.

Заграніцу ўдвая даражэй.

Цана абвестак паводле ўмовы.

**Адрэс Рэдакцыі:** Вільня, Завальная № 6 — 10. (Wilno, Zawalna 6 — 10).

Рэдакцыя адчынена ад гадз. 9 да 3-яй папаўдні.

# Шлях Моладзі

МЕСЯЧНАЯ ЧАСОПІСЬ БЕЛАРУСКАЙ МОЛАДЗІ

| Год IV. | Вільня, Травень 1932 г. | № 5 (40) |
| --- | --- | --- |

## „Працуй пільня—і тут Вільня!“

*(Беларуская народная прыказка).*

Ёсьць нешта падсьвядомае ў людзкой, асабліва — маладой душы, што вечна пхае яе „наперад“. Прынамся гэтак здаецца і тут, між іншым, шукаюць людзі прычыны поступу. Але мыляўся-б той, хто думаў-бы, што гэта падсьвядомае нічым нерэгуляванае імкненьне само праз сябе заўсяды даводзіць да пажаданай мэты. Спалягацца на гэта азначала-б тое самае, што пускацца на бурныя воды ў лодцы бяз руля і вясла: можна гэтак ехаць ня туды, куды трэба, а туды, куды цячэ вада. А значыць, гэтак „далёка не заедзеш“.

З другога ўзноў боку, перадусім на вёсцы нашай, быў і ёсьць нахіл „дастацца ў места“, або прынамся бязмысна ўва ўсім гэта места малпаваць. Гэты нахіл асабліва сягоньня відавочны, калі вёску душыць малазямельле і безрабоцьце. Моладзь ня раз кідае сягоньня хату і навосьлеп ідзе ў места; а не знашоўшы тут сабе адпаведнага заняцьця, гібее, часта назаўсёды. Калі прыняць пад увагу, што на гэткі крок кідаецца моладзь усё-ж спрытнейшая, а прынамся больш старанная, дык незалежна ад таго, ці яна ў месьце неяк устроіцца, ці не, для вёскі з гэтага ўсёроўна страта: у ёй, пры такім разуменьні справы, усёроўна астаецца толькі той, хто каб і хацеў вёску пакінуць, дык або гэтага зрабіць ніяк ня можа, або... баіцца ці ня ўмее. Міла ці няміла каму, але гэта надта падобна да праўды і сягоньня лічаныя толькі адзінкі сядзяць на вёсцы „па сваей волі“: рэшта сядзіць тут быццам на вагзале і гатова ўцячы „ў сьвет“ кожнай хвіліны.

Выглядае, што на вёсцы няма „гаспадароў“, а сядзяць тут быццам бяздомныя „арандатары“ на тое толькі, каб з гэтай вёскі браць усё, што толькі дасца і за гэта нічога ёй не даваць. А як няма ладу ў бяспрыглядна арандаванай гаспадарцы, так няма і быць ня можа ладу на вёсцы датуль, пакуль у ёй няма „гаспадароў“, а тыя, што ёсьць—кожны глядзіць на яе, як на катаргу для сябе, а не як на мейсца, дзе жыцьцё можа быць усём „людзкім“ і магчымым. Трэба толькі на гэту вёску зьвярнуць хоць частку тае ўвагі, якой карысталася і сягоньня карыстаецца места.

Перш чым ставіць вёсцы свае дамаганьні, яе трэба разумець. Вёска ніколі ня будзе местам, але і места ня ў сілах даць таго, што можа даць вёска. У гэтай плошчы і трэба шукаць разьвязкі.

Сягоньня агульным ёсьць кліч па культуры, але культура гэта разумеецца выключна такой, якой яе стварыла места. А для вёскі трэба культуры вясковай. На гэта патрэбны перадусім людзі, якія-б з перакананьня сталіся сапраўднымі „грамадзянамі вёскі“ і асеўшы на ёй, думалі перадусім аб дастасаваньні вымогаў сапраўднай культуры да шэрай вясковай штодзеннасьці. Пэўна-ж, што на гэта ня кожны здольны, а і найздальнейшы — сам у адзіночку цудаў зрабіць не патрапіць. Але добрая воля ломіць скалы.

Заграніца, якая даўно выперадзіла нас у разбудове местаў і фабрык, дзесяць гадоў ужо з лішкам як агледзілася, што пайшла ў гэтым кірунку за далёка. Сягоньня па Зах. Эўропе йдзе кліч: „назад у вёску!“ А каб вёску зрабіць больш магчымай у сэнсе жыцьцёвых выгодаў, пазакладаліся там асобныя таварыствы, якія радзяцца з сабой на міжнародных зьездах.

Калі гэтак робіць заграніца, не баючыся нават варочацца назад, дык тым-больш і тым-сільней трэба па гэтай лініі йсьці нам, каторыя на гэтым шляху ня маем нічога страціць, але шмат зыскаць, і маральна і матэрыяльна.

Старшаму пакаленьню цяжэй гэтыя праўды можа зразумець. З тым большым запалам мусіла-б за гэту справу ўзяцца моладзь і прыняцца за працу ў імя клічу: „вёска для вёскі!“

Конкрэтная праца ў гэтым кірунку магла-б мець выгляд хоць-бы гэтакі:

1. Чытаньне кніжак і газэт, у якіх разьбіраюцца справы вёскі і ладжаньне дыскусіяў (абмена думак) у гэтай-жа справе;

2. Дбаньне аб добры выгляд вёскі: саджэньне дрэў, рабленьне клёмбаў і саджэньне кветак у гародчыках каля хаты, старраннае ўтрымоўваньне платоў (парканаў), сьцежак, кладак, дарог і г. д.;

3. Дбаньне аб добры выгляд і стараннае, прадусім чыстае ўтрыманьне хаты і каля хаты: мыць вокны, замятаць панадворкі і ўсё каля хаты;

4. Падтрымоўваньне, дзе ўжо ёсьць, і заводзіць, дзе дагэтуль няма, звычаю, ўжываньня нашых, на цэлы сьвет слаўных самадзелаў: падтрымаем гэтым свае цэнныя асаблівасьці, дамо заработак і кавалак хлеба сваім людзям і ня будзем дарма траціцца на бязвартасную „крамную“ тандэту...

Усё гэта і шмат чаго іншага не каштуе найчасьцей і ламанага граша. Хапае самай толькі добрай волі і зразуменьня, што працай і руплівасьцю можна таксама шмат чаго дасягнуць, а перадусім упрыемніць сабе самому побыт— працу і на нашай беларускай вёсцы. А як гэта станецца,

часьцей і гусьцей знойдуцца на нашай вёсцы людзі, якія далей павядуць яе да ўсебаковага вызваленьня.

Як бачым, хочучы працаваць, можна быць здаволеным з гэтае працы і на вёсцы. Трэба толькі душу сваю да гэтае вёскі больш чым дагэтуль прыкланіць. Вынікі добрыя можа ня будуць скорыя, але затое — пэўныя.

Моладзь, да працы ў першую лінію!

# Крыху з нашай гісторыі.

## Вітаўт — вялікім князем.

Пасьля уніі з Польшчай галоўнай апорай для Ягайлы быў у Вялікім княстве Літ.-Беларускім тупы і слабавольны Скіргайла. Калі Скіргайла выехаў у адабраны ад брата Андрэя Полацак, каб там наладзіць паслушную для сябе ўладу, Вітаўт забраў многіх князёў і баяр і пачаў перад імі скаржыцца і наракаць на новыя парадкі, прадстаўляючы ведамыя факты аб бяспраўным палажэньні, якое стварылася пасьля Крэўскай уніі для князёў, баярства і наагул усяго Вялікага княства, каторым заўладалі чужынцы. Князі і баяры аднясьліся да гэтых слоў Вітаўта з вялікай спагаднасьцяй і тут-жа, на гэтым самым сабраньні, было пастаноўлена заўладаць Вільняй.

Гэтак пачалося новае змаганьне ў В. К. Літ.-Беларускім; у гэтым змаганьні прынялі ўдзел, так як і даўней, нямецкія крыжаносцы.

Вітаўт, выступаючы проціў Скіргайла і Ягайла, знайшоў падтрыманьне ва ўсіх пластох насельніцтва нашага краю, бо пачаў змаганьне з клічам адбудовы поўнай незалежнасьці В. Княства. Ягонае войска ўсюды: на Літве, Жмудзі і Беларусі знаходзіла для сябе падтрыманьне, насельніцтва ахвотна ішло ў Вітаўтава войска, падвазіла для яго ўдоваль рознага правіянту, як мукі, мяса, корму для коней і г. д. Ягайла, каб ратаваць унію і сваю ўладу, увёў у граніцы В. Княства польскае войска і разставіў гарнізоны бадай па ўсіх гарадах В. Княства. Але жыхары, злучаючыся з войскам Вітаўта, нападалі на гэтыя гарнізовы і нішчылі іх. Тагды Ягайла пабачыў, што з дружным адпорам усяго насельніцтва змагацца няма як і пайшоў на ўступкі.

Але хітры і асьцярожны Ягайла папробаваў спачатку аддзяліць справу Вітаўта ад справы агульнай і хацеў перацягнуць на свой бок насельніцтва а перадусім князёў і баяр. Ён адсунуў ад улады Скіргайлу а назначыў Вялікім Князем брата Вітаўтавага — Вігунта (Александра), але Вігунт скора памёр, так што трэба было лічыцца ізноў з Вітаўтам, тым больш, што яго паддзержывалі іншыя князі і баяры.

Ягайла парадзіўшыся з Скіргайлам, рашыў пагадзіцца з Вітаўтам і назначыць яго вялікім князем. Згода паміж Вітаўтам і Ягайлам наступіла на зьезьдзе ў Востраве 1392 году; на гэтым зьезьдзе была прысутнай так-жа каралева Ядвіга, як прадстаўніца інтарэсаў польскай кароны.

Паводле ўмовы ў Востраве Ягайла аддаў Вітаўту Троцкае княства (бацькаўшчына Вітаўтава па Кейстуце) а так-жа яшчэ некалькі меншых княстваў. Але галоўнае ў гэтай умове было тое, што Вітаўт быў прызнаны як поўнапраўны ўладар Вялікага княства па канец свайго жыцьця. Вітаўт з свайго боку забавязаўся стаяць пры кароне і землях каралеўства польскага, у гэтай справе выдаў нават каралеве Ядвізе адумысловы дакумант, апрача гэтага было пастаноўлена, што па сьмерці Вітаўта ўсе ягоныя землі пярэйдуць пад уладу польскага караля.

З гэтага відаць, што ўмова з 1392 году ўнесла у Крэўскую унію некаторыя зьмены на карысьць В. К. Літ.-Беларускага. Цяпер В. Княства, астаючыся ў лучнасьці з Польшчай, здабыло для сябе пэўную аўтаномію, прынамсі пакуль будзе жыць Вітаўт, і пачало змагацца пад кіраўніцтвам Вітаўта за поўную незалежнасьць ад Польшчы, так як было перад Крэўскай уніяй. У гэтым змаганьні вялікую ролю адыгралі побач з Вітаўтам меншыя князі і баяры, каторыя паказалі сваё значэньне і сілу ў Літ.-Беларускай дзяржаве.

Вітаўт, атрымаўшы вялікакнязеўскі пасад, спачатку дзяржаўся дагавору з 1392 г. і ва ўсіх важнейшых справах пытаўся згоды Ягайлы. І так: Вітаўт са згоды Ягайлы адабраў землі ад тых князёў, якія не хацелі прызнаваць яго за вялікага князя (Карыбут, Сьвідрыгайла, Уладзімір і інш.). Ягайла часта прыяжджаў у Вільню і тут разам з Вітаўтам выдаваў розныя распараджэньні адносна В. Княства — так што здавалася згода паміж Вітаўтам і Ягайлам была поўная. Але гэта толькі здавалася. Вітаўт меў свае пляны і гэтыя пляны ён праводзіў з жалезнай консэквэнцыяй. Адсунуўшы пры помачы і згодзе Ягайлы непакорных князёў і стаўшы поўным гаспадаром у В. Княстве, Вітаўт пачаў паступаць не як вассал (залежнік) Польшчы, а як самастойны ўладар. І ня дзіва, цяпер за Вітаўтам стаялі ўсе літоўска беларускія баяры і ўсе княствы, каторыя не хацелі ісьці ў падданства Польшчы. У 1398 годзе, у бытнасьць Ягайлы ў Вільні, у Польшчы пранёсься нават слых, што Ягайла хоча зусім зраўняць з сабою Вітаўта і даць яму тытул караля...

Польскія паны, якія хацелі ўсякім спосабам паказаць залежнасьць В. Княства ад Польшчы, навучылі Ядвігу, каб яна зажадала ад В. Княства дані, разумеючы добра, што аплата дані ёсьць адзнакай залежнасьці... Гэта жаданьне Ядвігі так абурыла Вітаўта, што ён склікаў князёў і баяр

і спытаўся ў іх, ці яны хочуць быць даньнікамі Польшчы? Пры гэтым прачытаў пісьмо Ядвігі. Пасьля прачытаньня гэтага пісьма на сабраньні паўстала цэлая бура, баяры ў адзін голас заявілі, што яны нічыімі даньнікамі ня былі і ня будуць...

Тагды Вітаўт стаў прыгатаўляцца да змаганьня з Польшчай. Каб мець саюзьніка, ён заключыў умову з крыжаносцамі і нават абяцаўся ўступіць ім часьць сваіх зямель. Гэтая ўмова была пацьверджана на зьезьдзе Вітаўта з магістрам крыжацкага ордэну ў 1398 г. На гэтым зьезьдзе было шмат літоўскіх, беларускіх баяр. Калі скончыліся перагаворы, магістр ордэну запрасіў усіх на банкет. На банкеце здарыўся выпадак, які хоць сам па сабе ня меў ніякага значэньня, аднак вельмі добра ілюстраваў тагачасныя настроі і імкненьні літоўска-беларускага баярства: гэтае баярства ў часе банкету агаласіла Вітаўта каралём. З гэтага факту, які ня меў рэальнага значэньня і перайшоў у гісторыі як бяседнае пажаданьне, выражанае за сталом, відаць было, што унія з Польшчай ня мела грунту ў В. Княстве. Тагачаснае грамадзянства імкнулася да сарваньня тых сувязяў з Польшчай, якія накінуў яму Ягайла і намагалася вярнуць В. Княству поўную незалежнасьць і самастойнасьць. Па гэтай лініі ішоў і Вітаўт.

Аднак у той час да яўнай барацьбы паміж Польшчай і Літвою не дайшло: Ягайла не адважыўся пачынаць рашучых крокаў адносна Вітаўта. Чаму? Розна на гэтае пытаньне адказваюць гісторыкі: адны цьвердзяць, што Ягайла ня ведаў, на што рашыцца і чакаў, што час пакажа; іншыя ізноў бачаць у гэтым абдуманую палітыку Ягайлы, які высьцерагаўся, як мог, разрыву Польшчы з Літвою. Урэшце ў 1399 памёрла Ядвіга, так што Ягайла баяўся разам з сьмерцяй жонкі страціць і карону польскую, ізноў Вітаўт пасьля вялікай няўдачы ў вайне з татарамі (пры рацэ Ворскле татары ўшчэнт разьбілі войска Вітаўта і сам Вітаўт ледзь жывы ўцёк з горсткай баярства), аслаблены ня мог і думаць аб аружным змаганьні з Польшчай. Затым як Ягайла так Вітаўт ідуць на ўзаемныя ўступкі і заключаюць рад дагавораў, найважнейшы з якіх быў дагавор ў Г о р а д л е (над Бугам) у 1413 годзе.

У гэтым дагаворы ўжо няма гутаркі аб тым, што па сьмерці Вітаўта В. Княства пераходзіць пад звычайную ўладу польскіх каралёў (як гэта было ў дагаворы з 1392 г.), але наадварот гаворыцца аб тым, што па сьмерці Вітаўта баяры (barones et nobiles) будуць магчы выбраць для сябе В. князя са згоды караля польскага. З другога боку і Польшч забавязалася не выбіраць па сьмерці Ягайлы на польскі трон нікога бяз ведама і рады Літвы.

Гэтакім парадкам унія з 1385-6., якая прадугледжвала

поўнае злучэньне Літвы з Польшчай (інкорпорацыю), ня была праведзена ў жыцьцё. Ужо паводле дагавору з 1392 году Польшч прызнала Вітаўта Вялікім князем па канец яго жыцьця, а паводле Горадлянскага дагавору нават па сьмерці Вітаўта Літ.-Бел. дзяржава мае права выбраць аддзельнага князя, які будзе знаходзіцца пад зьверхняй уладай (сувэрэннасьцяй) польскага караля.

І так з усей уніі 1385-6 году асталася толькі сувэрэннасьць польскага караля над В. княствам. Аднак гэта сувэрэннасьць мела таксама аграмаднае значэньне: яна азначала залежнасьць В. Княства ад польскага караля і гэта залежнасьць (з-пад якое ня змог выбіцца Вітаўт) прывяла з часам да рэальнай уніі ў Любліне (1569 г.). **В Г.**

# З падарожы па Палесьсі.

**У вёсцы С. Маёнтак С.; наступны пункт.**

Заходжу ў старэнькую, нізенькую хатку, з двума вакнамі. Сені адчыненыя, але ў хату нельга было зайсьці, бо дзьверы зашчэплены, — значыцца няма нікога ў хаце. Прайду праз вёску, думаю сабе, можа спаткаю каго, то папрашуся на кватэру. Прайшоў праз усю вёску і не спаткаў ані жывой душы; рабілася ўражаньне, што вёска гэта зусім бязлюдная.

Заходзіў у некалькі хатаў, але нікога там не знаходзіў: хаты не замкнёныя, а людзей няма; дзівіўся я вельмі: што гэта мае значыць? Ці гэтыя Паляшукі спалохаліся мяне і ўсе пахаваліся дзесь у падпечкі, ці нешта іншае з імі ёсьць — для мяне незразумелае? Зайшоўшы ў хату, выносіш уражаньне, што людзі тут жывуць, але дзе яны? Усё адкрыта, нічога не замкнёна; ложкі прыкрытыя дзяругамі, стаіць дзеравяная качарга каля печы, прымітыўныя лавы каля сьцен, на покуцьці стол, на якім засохшую поліўку плятнёй асеўшы выгрызаюць галодныя мухі; на вокнах яны тако-ж „спацыруюць“ масава, а хоць-бы ў гэтую хвіліну ня бачыў іх, то па пэўных сьлядох пераканаўся-б, што іх там шмат было.

У куце пад сталяваньнем вісіць адзін або некалькі закапцелых абразоў. Падлога прадстаўляе плястычны стол, на якім паказаны хвалісты краявід Паўночнай Беларусі (прыкл. топографія Браслаўскага павету). — І вось гэта поўная ўнутраная дэкорацыя паляшуцкай хаты. Разумеецца, — усіх пад адну хварбу нельга падводзіць.

Думаў я сабе, калі няма нікога ў вёсцы, то я сам загаспадарую ў першай лепшай хаце, але зноў такі, калі няма тут людзей, то няма патрэбы мне аставацца; трэба йсьці шукаць іншае вёскі, вёскі з людзьмі.

Ідучы назад праз вёску — ўгледзіў я ў солтысавым вакне людзкі твар. Аж палягчэла на душы: нарэшце ўгледзіў чалавека. Я хуценька пад вакно і ў гэтую хвіліну ўбачыў, як жанчына з дзіцём хавалася за печ. Я давай барабаніць у шыбу і прасіць яе, каб падышла да вакна і дала мне інфармацыі. Неахвотна яна выходзіла з-за печы і ня зьбліжаючыся да вакна спыталa палахлівым тонам: „Шо панычу трэба?“.

Пытаю яе, дзе солтыс? — што ён мне вельмі патрэбны. На гэта яна мне адказала: „На хуторі — у болоці, панычіку, вон прійдэ вэчаром“. Але мне так есьці хацелася, што я не пастыдаўся прасіць малака ў беднай паляшучкі, але яна катэгорычна адмовіла, тлумачучы тым, што каровы „на хуторі за 8 вёрст од сэла“, а ранішняга малака няма, пры гэтым дадала: „ідіте панычіку ў двор за сэлом, а там жывуть добрые паны, воні вас накормять.“ Відаць было з усяго, што гэтая Паляшучка хоча мяне як найхутчэй пазбыцца, дык нічога мне не аставалася, як пайсьці ў двор.

Гэтая мая першая пэртрактацыя з Паляшучкай — гаспадыняй у ейных собскіх „апартамэнтах“ засталася глыбока ў памяці. Гэтая жанчына магла мець гадоў 22, выглядала на шмат старэйшую, бо яе штодзенная, брудная, самадзельная вопратка і цяжкое, прыгнечанае жыцьцё матэрыяльнае рабіла яе старой. Чырвоная вышыўка на рукавах і грудзях зьлівалася з „белым“ колерам усяе кашулі і паласястай спадніцы ў адзін нейкі нявыразны шэры колер. Пад гэты агульны дэсэнь падходзіла цэра ейнага твару, а вырозьнівалася з усяго гэтага толькі даволі белае цела грудзей. Бачыць гэта можна было таму, што яна відаць карміла дзіцё, а як пасьля аказалася, ува ўсіх Паляшучак — жанчын, а нават дзяўчат, гэтае несьвядома-нявіннае „дэкольтэ“ можна заўсёды бачыць у гарачы летні час. Трэба пры гэтым адзначыць, што сьвяточная вопратка, а перадусім дзявочая, гэтым-жа „дэкольтэ“ ня грэшыць.

Хоць не хацелася мне, але прышлося пазнаёміцца і палескімі панамі. Паны, як паны, усюды яны роўныя, але палескія розьняцца можа ад іншых тым, што любяць Палесьсе, за выняткам Паляшукоў. Часам і на Палесьсі спатыкаюцца паны „добрага сэрца“, якія любяць сваіх Паляшукоў, як бедны жыд-рызіньнік свайго каня. Але паноў з гэтакімі сэнтымэнтамі ня шмат можна спаткаць. А пры гэтым трэба зазначыць, што на Палесьсі пераважна панскія абшары і то абшары, якіх у нас трудна ужо спаткаць. Прыкл. такі граф Плятэр мае аграмадныя маёнткі у Столінскім павеце, у мястэчку Дубровіцы ёсьць прыгожы касьцёл ягонай „фундацыі“, пры якім месьцяцца фамілійныя грабы. Калі памёр Плятэр, то вязьлі яго цела з м. Бяльмонты пав. Браслаўскага аж у м. Дубровіцы на Палесьсе.

Але вярнуся яшчэ да тых паноў, да якіх сьціравала мяне солтысава жонка. Двор гэты быў зараз-жа за вёскай. Месца тут вельмі прыгожае: парк, ставы, сад, толькі „палацы" панура пазіралі; відаць сумавалі за мінулымі шчасьлівымі часамі. Відаць, што тут некалісь быў куточак палескага „раю", але цяпер чамусьці роскаш і вонкавая прыгожасьць, што калісь цешыла панскае вока, зарасьлі мохам і травою. Відаць, што палеская прырода ня любіць ня свойскага арыгінальнага выгляду на сваім целе і яна хутка пачала надаваць свой натуральны выгляд палескі і гэтаму палацу.

Калі зблізіўся я да „палацу", то рэч зразумелая, перадусім сустрэла мяне рознай масьці і „калібру" стада сабак. Гэта ёсьць рыска старашляхоцкіх традыцыяў. (Хоць сам есьці ня мае, але сабак трымае). На ганку сустрэлі мяне з зьдзіўленьнем: сівалобая таўстая паня, 35-цілетняя худая „паненка" і прыгожая смуклая блёндыначка, гадоў 18-ці, гімназістка. Каб хутчэй заспакоіць іхную цікаўнасьць, у кароткіх словах сказаў, хто я і чаго прыехаў у гэту глуш. Прывіталі яны мяне дужа ветліва і запрасілі ў пакоі. У салёне можна было зорыентавацца, што тут жывуць старасьвецкія паны. На сьценах віселі старыя партрэты продкаў, пара старынных стрэльбаў і паляўнічы рог.

У той час, калі мяне „забаўлялі" старая паня і гімназістка — Анка, старшая паненка завіхалася ў кухні з кухаркай Палашкай-паляшучкай, яны гатовілі для мяне падабедак. І гэта было так хутка, што старая паня за гэты час прайграла на старым разьбітым фартэпіяне толькі пару старапольскіх „полёнэзаў". Рэч зразумелая, што „полёнэзы" мала мяне цікавілі, найбольш і перадусім у гэтых абставінах цікавіла мяне Анка. Яна была дужа мілая, прыемная, скромная і наіўная. З вочаў яе сьвяціўся нейкі дзіўны агонь, які пранікаў у маю душу і трывожыў мяне. Яна нясьмела і дэлікатна выпытывала ў мяне, чаму я з шумнага гораду прыехаў у глухое Палесьле шукаць прыемнасьці. Ці я сапраўды вялікі любіцель гэтага краю і гэтых цёмных людзей! А таксама запытала, на каторым я курсе ўнівэрсытэту. Калі я адказаў, то яна спусьціўшы галоўку ціхім голасам прамовіла: „якая вялікая розьніца між намі". Падумаў я тады,—большая розьніца між Галіцыяй і Беларусяй, або між Ганкай і Ганулькай. І шкада, чаму яна не Ганулька...

Прарвала нашу гутарку Палашка, якая прынесла яешню. Палашка выглядала ў праўдзівым, поўным строю паляшуцкім — сьвяточным. Відаць гаспадыня хацела задэмонстраваць перадамною сымпатыю і пашану да мясцовых звычаяў і вопраткі; яна вычула, што мне, як этнографу, гэта мусіць падабацца.

Праз пару гадзін прышлі два мужчыны: адзін у веку

каля 65 гадоў, тып не палескага пана, — гэта быў бацька Анкі, галічанін з-пад Карпацьця: ён сюды прыехаў да знаёмых на летні час на паляваньне. Другі мужчына, гандляр паляшуцкі, гадоў 30, рыжаваты. Абодва яны былі на паляваньні. Зараз-жа быў абед у поўным значэньні гэтага слова. Усе прысутныя былі задаволены з маей дзіўнай візыты. Закідывалі мяне рознага роду пытаньнямі, але я неахвотна і коратка адказываў, бо страшэнна хацеў спаць.

На наступны дзень была нядзеля. На раніцы пачаў званіць убогі ў гукі звон, значыцца будзе набажэнства ў царкве.

Пастанавіў я схадзіць у царкву, каб паглядзець на паляшукоў. Анка запрапанавала свае ўслугі йсьці разам у царкву. — Царква старэнькая, пахілая, убогая навонкі і ўнутры. На цьмінтары некалькі папоўскіх і іхных жонак магілак. Крыжы на гэтых магілках мохам зялёным паросшыя, на якіх прывязаны хвартушкі (аб хвартушкох на крыжох скажу пазьней). У царкве каля царскіх „варотаў“ стаяў стары поп, які сваім выглядам нічым ня розьніцца ад паляшука і хрыплым голасам пяяў:...„Госпаду Богу памолімся“...

Але маліцца, на жаль, ня было каму, бо па правай старане стаялі на каленях два паляшукі, а па левай — тры паляшучкі —, старыя— і дзьве дзеўчыны. Вопратка ў іх была сьвяточная: старыя паляшучкі босыя, а дзяўчаты ў лыковых новых лапцях; анучкі акручаны былі белыя. Усе прысутныя стоячы на каленях горача маліліся. Здавалася, што яны ня дзякуюць Богу, бо няма зашто, але чагосьці ўсей душой, думкай і сэрцам просяць-моляць, — хіба лепшай долі... Малітва гэтых людзей была ціхая, але шчырая і глыбокая. У адказ папу адпеіваў высокім тэнарам псаломшчык, голас якога ў некаторых мясцох часта пераходзіў на фальцэт і ў гэты мамэнт прыпамінаўся казьліны голас.

Казаньне поп гаварыў паляшуцкім дыялектам. Тэма казаньня, як і кожную нядзелю: каб хадзілі ў царкву, маліліся Богу і каб не забывалі на папа, бо ён слуга Божы. Прысутных відаць усё гэта ня вельмі цікавіла, бо некаторыя так голасна зявалі, што аж рэха расходзілася па пустой царкве.

Па набажэнстве пайшоў я ў сяло, каб апрацаваць пэўныя пытаньні, дзеля якіх я прыехаў. Сяньня сяло было люднае і мэту сваю я хутка асягнуў. У гутарцы з Паляшукамі даведаўся, што яны ня ходзяць у царкву і ня любяць папоў, бо яны страшэнныя матэр'ялісты і апошнія сокі выдушываюць з селяніна, калі надарыцца спасобнасьць.

А трэба зазначыць, што Паляшукі — веручыя людзі і яны пасвоему веруць і моляцца Богу. Казалі мне паны, што ў гэтым сяле і іншых ёсьць некалькі падросткаў, якія

ня хрышчаны ў царкве і незапісаныя ў мэтрыках, а гэта дзеля таго, што ня маюць чым заплаціць папу.

Вечарам з вялікім захопленьнем слухаў я паляшуцкія песьні, якія пяяла моладзь усяе вёскі сабраўшыся на прызьбе. У тонах гэтых песьняў чуецца безгранічны сум і жаль, які сьціскае душу чалавека. Толькі часам у жартаблівых песьнях прасьвечываецца праменчык вясёласьці, але такіх песьняў мала пачуеш.

На другі дзень раніцай выехаў я да наступнага пункту. Пры разьвітаньні Анка так паглядзела на мяне, што мне сапраўды сумна было з ёй разьвітывацца. Яе нявінны погляд казаў мне: „астанься тут пры мне — ня едзь, а калі паедзеш, не забудзь!“... Але мне нехта казаў: „яна-ж Анка, а не Ганулька, ідзі адсюль і забудзь яе“...

Мокрымі і вузкімі дарожкамі ехаў я на панскіх конях і гутарыў з фурманом аб паляшуках.

**Фр. Цяцерскі.**

---

# Ab kulturnych formach žyćcia. [5)]

*Na vulicy.*

U našych biełaruskich varunkach, dzie ŭsio amal nasielnictva, heta ludzi vioski i pieravažna małych miastečkaŭ, addzieł ab zachavańni „na vulicy“ nie adnamu badaj pakažacca lišnim, a to i prosta niepatrebnym. Heta adnak nia susiom praŭda. Ab zachavańni na vulicy treba być pavučanym i ŭ nas: raz dziela taho, što i viaskovaja vulica tady musiła-b pierastać być miescam, za katoraje i ŭ nas nichto nie chacieŭ-by sianońnia ŭziać na siabie adkaznaści, a druhoje — jak naš viaskovy čałaviek budzie viedać prynamsia z-bolšaha praviły zachovyvańnia na vulicy, pierastanie być naśmiešyŝčam, a navat pradmietam ździeku i niasumlennaha vyzysku ŭ mieście, kudy ŭsio ž dyki, choć ličanyja razy ŭ žyćci, a dastacca musić. A jak čujecca viaskovy „niabyvały“ čałaviek u mieście, prypaminać tut chiba było-b lišnim. Jon tut prosta „sam-nia-sam“: jaho tut papichajuć, nad im śmiajucca, strašać, ašukivajuć... I kaho i dzie tut słuchać, kaho pytacca ci radzicca? A i atrymaŭšy radu, ci-ž možna kožnaj vieryć? Ci-ž možna napr. za kožnym iści, chto niekudy viadzie ŭ jakiści tam kutok, niby kramku, ci načleh, ci niešta inšaje?

My tut nie staŭlajem sabie za zadańnie vyrašyć usie hetyja trudnaści za raz. Zdavolimosia na hety raz prostym tolki śćvierdžańniem, što pavodle zachavańnia ŭ mieście viaskovaha čałavieka zaraz-ža paznajuć i śmiajucca nad im, „šturmujuć“ kožny pasvojmu i kožny na svaju sobskuju karyść. A kab proci hetkaha „šturmu“ ŭstajać, treba pieradusim paznać elementarnyja vymahańni „vulicy“ i da ich stasavacca.

Na ludnaj vulicy, dzie biazupynna płyvie ludzkaja raka, nielha pradusim biaz važnaj patreby zastanaŭlivacca i zatrymlivać inšych. Ići-ž treba — ŭ nas — zaŭsiady pravaj staranoj. Vielmi niaprystojnym jošć zvyčaj ahladańnia spatkanaha čałavieka, jak kažuć, ad noh da hałavy. Nia lepšym taksama jošć zvyčaj źbiahańnia na vulicy ŭ hramadu, kali niejdzie z niekim staniecca jakojeś niaščaście. Heta nia značyć adnak, kab vychodziła tak, što „ad kaho Boh, ad taho j ludzi": naadvarot, čałavieku ŭ biadzie ci nahodzie pamahčy treba, navat treba kaniešna. Ale nielha astanaŭlivacca pa toje tolki, kab na niaščaście hladzieć dy — pieraškadžać tym, što pamahać chočać ci prosta — musiać.

Što dumać i što skazać ab štoraz bolš pašyranym zvyčaju chadžeńnia pabraŭšysia pad ruki? — Splatajecca tut šmat mamentaŭ. Pieradusim sprava publičnaha paradku: ščeplanyja pary ludziej, asabliva ŭ miajscoch ludnych, zaŭsiady pieraškadžajuć, a značyć nia mohuć mieć miesca (nia mohuć być stasavanymi).

U vialikich miestach pačaty i na vioscy štoraz čaściej spatykany „panski" zvyčaj padvodžańnia „pad ruku" možna vytłumačyć rozna: jošć vypadki, kali asoba takoha padtrymańnia patrabuje, napr. asoba staršaja, chvoraja, słabaja. U takim razie ŭsio ŭ paradku. Horš adnak i ciažej apraŭdać takoje „padvodžańnie" praktykavanaje pasiarod padrastajučaj i navat darosłaj r o z n a p ł o c i a v a j (chłopcy-dziaŭčaty) moładździu. Nielha piarečyć, što i tut byvajuć mamenty sapraŭdnaj patreby, napr. pry paśpiechu, pry pierachodzie praz niejkaje niavyhodnaje miejsca (roŭ, ślizota, hraź, hara, kasahor, pry zmareńni i h. p.), pry fizyčnym niedamahańni, ale... dzie-ž hranica pamiž sapraŭdnaj patrebaj i zvyčajnaj płociavaj nieakiałzanaściu, dla katoraj pieradusim na vulicy nia miejsca?!

Dziela hetaha chaj lepš budzie za mała, jak za šmat prad paroj panačaplanych maładych „paraŭ" na našych vulicach: vyhlad vulic ad hetaha napeŭna nie pabrydčeje, a sama moładź tolki vyjhraje.

Heta ahułam. Dla tych-ža niešmatlikich vypadkaŭ, kali dziaciuk uvažaje za abaviazak pamahčy dziaŭčaci ŭ chadzie, treba viedać, što lepš padać dziaŭčaci (damie) *plačo* (pravaja ruka schilenaja ŭ łokci), čymsia samomu chapać dziaŭčo za ruku (pad pachu)...

Daloka pavažniej i prystajniej jošć pravodzić asobu staršuju viekam ci stanoviščam, ci ŭreście asobu žanočaje płoci tak, kab mieć jaje pravaruč ad siabie: viaści jaje tady za ruku nia treba, ale treba mieć biazupynna volnaj pravuju ruku na toje, kab u razie patreby mahčy pamahać u kožnuju chvilinu. Kali-b adnak niejki prachod (ściežka) byŭ vuski na dvuch ludziej, treba pravodžanuju asobu puścić iści napierad. Pry pierachodzie tak *vuskim chodnikam*, što tolki čas ad času

možna jści dvum ludziam pobač siabie, treba kiravacca tym praviłam, kab asoba pravodžanaja mahła jści stała ŭnutranym (ad ściany) bokam chodnika, a asoba pravodziačaja — abo vonkavym (ad vulicy), abo z-tyłu, abo ŭrešcie čas-ad-času schadzić na vulicu. Heta značyć, što *jdučy levym vuskim chodnikam vulicy, treba asobu pravodžanuju mieć ad siabie nie pa pravaj, a pa levaj staranie.* Na hety vyniatak treba pomnić!

Kali miejsca jošć dosyć i pobač siabie adnačasna mohuć iści bolš jak dźvie asoby, napr. try, tady pasiaredzinie jdzie asoba ŭ danym tavarystvie najpavažniejšaja; nastupnyja miajscy: pa levaj i pa pravaj staranie ad asoby jdučaj pasiaredzinie.

Raźminacca pry spatkańni treba — ŭ nas — zaŭsiady ŭprava, kali-ž adnak niekaha abminajem z-tyłu (z-zadu), dyk sami abchodzimo levaj staranoj, kab asoba, jakuju minajem, mahła dalej iści staranoj pravaj. Pry abminańni z-tyłu, kali miejsca vuskaje, treba asobu minanuju vyrazna, ale biaz kryku, pieraprasić, kažučy *„vybačajcie!“*, na što asoba minanaja adkazvaje *„kali łaska!“*.

Asabistaje zachoŭvańnie na vulicy musić być takoje, kab jak najmienš, a pa mahčymaści i susiom nie źviartała čyjej-niebudź uvahi. Na publičnaj vulicy nielha hołasna havaryć, a tymbolš — śmiajacca, piajać, śvistać, jeści, toŭkacca i h. d. Miestavyja vulicy pierachodzić treba prosta (da chodnika — staćcia), nie marudziačy, ale spakojna i *biez paśpiechu.*

Zatrymoŭvać na vulicy možna tolki asobu dobra znajomuju, dy i to taktoŭnaść vymahaje pieradusim pieraprasić jaje za pierapynieńnie i nia zmušać jaje stajać na miejscy, ale praviaści krokaŭ dziesiatak-druhi ŭ kirunku, kudy jana jšła sama. Pry źviartańni na vulicy da asoby nieznajomaj adnosicca heta ŭ miery jašče bolšaj. *V. S.*

# Літэратурны аддзел.

**V. A.**

## BIEŁARUSKIJA CYMBAŁY.

I.

Zrablu sabie zyčny cymbały;
Pajdu na kryžovy darohi
I siadu pad kryžam ubohim,
Zajhraju dla Božaje chvały.

Hej, ludzi usie padarožny!
Najbolš, chto biadoju pryhniečan,
Niadolaju chto abaźviečan —
Pabaččie — dziadok tut pabožny.

Ihraju, ihraci ja mušu.
Tut noty žyćciom napisany,
Dyk buduć usie pračytany:
Jak struny žyvyja parušu.

Dyk śmieła ka mnie prystupicie!
Mnie hrošykaŭ vašych nia treba:
Ja serca žadaju, nia chleba.
Žyćcio mnie svajo raskažycie.

Ja zara cymbały naładžu,
I chutka umiełaj rukoju
Ja struny da pieśni nastroju;
Usich vas paciešu, paradžu.

Woś baču, — prychodziać hramady
Siarmiažna-pracoŭnaha ludu,
(Chviliny ja toj nie zabudu!)
I pieśni majej byli rady.

I słuchajuć, słovy chvatajuć,
A pieśnia dachodzić da serca,
A serca žyviej adaźviecca...
I bolej, i bolej žadajuć!

II.

Pajšoŭ ja z tajej hramadoju;
Z sialanami blizka združyŭsia;
Z biadoju narodnaju zžyŭsia,
Jak hruša z svajeju miažoju.

I staŭ ja chadzici pa vioskach;
Błudžu tak ad chaty da chaty,
Hdzie biedny žyvie, hdzie bahaty —
Pa vuzkich, kryvieńkich darožkach.

Na pryźbie zasieŭšy, ihraju:
Bahaty hladziać niełaskava,
A biednyja bačać cikava,
A moładź za serca chvataju.

Sabraŭsia narod, narod Božy:
Hramadka hramadoju stała —
Usie tut ad stara da mała,
Tut chłopcy, dziaŭčatki pryhožy.

Cymbały maje zahudzieli:
Ja moładź viaskovu paciešyŭ,
Ja dziełačak miłych naśmiešyŭ,
Až baby, dziady zmaładzieli.

Ȧzvaliś stareńki babuli,
Śmiajucca, piajać pamahajuć,
Daŭniejšy hady ŭspaminajuć,
Jak pieśniu narodnu pačuli.

Azvałaś duša u narodzie;
A dzietak hałoŭki, jak chvali,
Śmiajaliś ka mnie i kivali,
Jak maki čyrvony ŭ harodzie.
(d. b.)

## СЬМЕРЦЬ ІВАНКІ.
## V.

Невялікая хаціна мерзьне на адсельлі
Паўвярстовым аддаленьнем вёска хату дзеліць,
Навакол шуміць дуброва, сосны многавечны —
Хутар ціхі і харошы, ад брахні бясьпечны.
Палясоўшчык тут калісьці панскі збудаваўся, —
Лет ўжо колькі, як яго род ў лесі памнажаўся.
Пад цяжарам лет мо' соткі хатка пакасілась;
Шмат людзей тут паўмірала, новых шмат зрадзілась;
Сёньня маці засталася з дочкаю і сынам
Дый апошняга забралі. Бедная хаціна
Стала, быццам сіраціна... Маці ўсьцяж марнела,
Быццам сьвечка васкавая, пад вагнём тапнела;
Рана, ўвечар моляць Бога стаўшы на каленях:
Каб паслаў яму здароўе ў хату зноў вярнуцца,
Моляць, просяць, ажно сьлёзы самі з воч ліюцца,
А на сэрцы нейк цяжэе, штосьці нарастае,
Цісьне, душыць, што сапці нат духу не хапае.
Пойдуць ў поле жыта жаці. Праца думку збудзіць,
—„Ой снапкі, мае снапочкі, хто-ж вазіць вас будзе?“
Плачам горкім захлысьнецца ўспомніўшы аб сыну,
Дочка матку цешыць стане ў сумную гадзіну...
Ці ўпраўляюцца ля печы, ці ля слабадзіны, —
„Ах, каму-ж варыць я буду? Дзе-ж мой сын адзіны?
З слабадзіны-ж каторы возьме адазьвецца,
Маці ўчуе, ня стрымае, плачам зноў зальецца.
Сьвята прыдзе. Цэркаў вёску на малітву кліча,
Матка моліцца, а звон ёй сэрца глыб каўзыча.
Ей здаецца: сына, быццам, на руках калыша,
Туліць, песьціць і цалуе, чуе як ён дыша,
Ўсё жыцьцё яго з дзіцятка думка ёй наводзіць,
Чуе мову ад Іванка, бачыць як ён ходзіць,
Пад адрыну, пад паветку, падзівіўся ў яму,
Да каня свайго прамовіў, да кароў заглянуў...
Чуе звоны... Плачуць людзі... Жудасна сьпяваюць...
„Божа! Родны мой ты сынку! Тож цябе хаваюць?“

VI.

Ўжо ад Слоніма ў ту пору немцы адступалі, —
Ўсёж яшчэ дарогі, сьцежкі зорка вартавалі.
На глухой дарозе ў лесі два зыйшлісь жаўнеры,
Немец зважыўшы Іванка з карабіна мерыў,
Пэўным быў, што ён з разьведам варажым спаткаўся.—
А тымчасам к дому Янка лесам прабіраўся,
Каб пабачыць, ці здаровы там сястра і маці,
Як вядзецца там парадак ў мілай, роднай хаце ..
Зважыў немца. Бараніцца рынуўся як можа,
Ўраз схапіўся за аружжа, — дый было ўжо позна...
Паўвярсты і менш да хаты можа засталося,
Дык чаму-ж яму так, Божа, памярці прышлося,
Не убачыўшыся з хаткай, з роднаю сястрою,
Не прамовіўшы нат слова з маткаю старою?!
Ня ўздыхала над труною і не галасіла,
Невядома матцы роднай сынава магіла.

(д. б.) *Я. Вількоўскі.*

# Jak być zdarovym. (3)

(*Adzieža i čystata cieła*).

Adzieža pavinna być vyhodnaja i praktyčnaja, kab nidzie nia ŭciskała našaha cieła i nie pieraškadžała ŭ pracy. Dziaŭčatam treba raz nazaŭsiody pazbycca roznych garsetaŭ i žakietaŭ, jakija niamiłaserna kalečać usiu fihuru. Pry hetym treba, kab adzieža była dastasavana da pary i akaličnaściaŭ. Da pracy treba mieć asobnuju adziežu, jakuju, pryšoŭšy da chaty, treba ździeć, vyčyścić i paviešać na svajo miejsca.

Treba taksama pa sile mahčymaści mieć śviatočnuju adziežu. Heta adnak nia znača, što jana kaniešna pavinna być kuplenaj ŭ kramie, bo čym kupić jaki tandet (bo lepšaha nam kupić nie pasile), to sto razoŭ lepš pašyć samadziałkovy kaścium i takoje-ž palto: i pryhoža vyhladaje i panosiš daŭžej. Bolšuju, a tak-ža i mienšuju adziežu treba čas ad času čyścić ščetkaj i pieravietryvać na volnym pavietry. Dziaŭčaty jznoŭ, a taksama i chłapcy, pavinny letam nasić vyklučna naš biełaruski narodny stroj, jaki jošć tanny i pryhožy, a pry hetym jon śviedčyć ab našaj hordaści narodnaj. Prysłuchajsia pry hetym, pavažany čytač, kolki baćki narakajuć na svaich dočak, što ŭsiu haspadarku hubiać, kuplajučy roznyja markizety, šatyny, batysty (moža tolki lažała jano kala batystu) i inšuju kramninu! A na ŭsiu-ž adziežku možam my sami napraści i natkać: raście, dziakuj Bohu, u nas lon, kanapli i hadujucca aviečački!

Dyk pomnicie, daražeńkija, što nosiačy samadzielščynu, pavialičyvajem bahaćcie i dabrabyt svajho narodu!

Paśla vierchniaj adzieży nastupaje bialjo (chuście), jakoje treba nasić jak zimoj, tak i ŭletku, źmianiajučy tolki štotydzień na čystaje. U mnohich vakolicach Biełarusi pryniata, što mužčyny pracujuć letam, naprykład pry sienie, tolki ŭ adnej bialiźnie samadzielnaj. U hetym niama ničoha dziŭnaha. Naadvarot, heta duža dobra, bo zdarava: pavietra adusiul dachodzie da cieła. A kali spartoŭcam i roznym abibokam i hulakam volna pierad tysiačnymi toŭpami chadzić ci lažać čuć nia hołym, dyk čamu našamu pracaŭniku-sielaninu, pry pracy na svaich rodnych honiach, nia možna pracavać u adnej bialiźnie? Čamu jon maje siem potaŭ vylivać u vierchniaj i spodniaj adzieży? Tolki treba, kab bializna była čystaja i dobra pašytaja. Ja adzin raz spytaŭ dužaha, 90 hadovaha staryka, jak jaho zdaroŭje, — dyk toj adkazaŭ: — Usio dobra, paničok, leciatkam dyk pavietram i soncam žyvu, bo zubkoŭ nia maju i mała što mahu jeści. — Wot-ža dobra adciemić žyćciovuju mudraść starejšaha čałavieka.

Paśla adzieży musimo źviarnuć uvahu na čystatu našaha cieła. Naša skura maje nadta mnoha hručołaŭ łajovych i patavych, jakija vydzialajuć łoj i pot. Hetyja apošnija źmiešyvajucca z pyłam i vytvarajecca lipučaja hraź. Hraź heta zaleplivaje ŭsie dzirački i pory skury, praz jakija dachodzić pavietra da arhanizmu, padobna jak i praz lohkija. Žaba np. moža žyć biaz lohkich: tak mnoha pavietra skura prapuskaje jejnaja.

Dziela hetaha štodzień zrańnia pavinny my z myłam vymyć tvar, šyju i hrudzi. Ruki treba myć pierad kožnaj jadoj. Myć usio treba tolki z myłam, bo adna vada nia moža raspuścić hetych vydzialinaŭ skury. Nastupna, systematyčna musimo chadzić u łaźniu raz u tydzień, abo najmienš raz u dva tydni. Ale na žal nia ŭsie Biełarusy majuć łaźni. Jość całyja paviety, dzie ludcy tak, jak u centralnaj Polščy, nia čuli ab łaźni, abo ŭvažajuć łaźni za panskija vydumki. I niaraz taki hramadzianin (hramadzianka) mylisia tolki tady, jak ich babka kupała ŭ načoŭcy, nu i musić druhi raz vymyjuć, jak pamre. Až žudasna! I jak-ža takija ludzi pradstaŭlajucca? Zdalok ad ich niasieć potam i prahniŭšym ludzkim łojam, viečna jany chvoryja na roznyja skuły, vysypki, karostu i lišai, časta ŭ ich raźvivajucca suchoty, a ŭ hałavie „słaŭny“ i znany z zababonaŭ kałtun. Dziaŭčyna voś takaja (ci dziaciuk) prybiarecca, vypudrujecca, a na't šapku nadzienie, a nia pomnić, što treba vymycca, što nazyvajecca, kab hraź *ragavinami* nie ściakała. Dziela hetaha budujma łaźni: kali niepa-

*СЯБРЫ РЭДАКЦЫЙНАЙ КАЛЕГІІ:*
*Язэп Найдзюк, Ізабэля Тумаш і Альфонс Шутовіч*

**Выдавец Янка Багдановіч. Рэдактар Мар'ян Пяцюкевіч**

siłu heta adnamu haspadaru, treba rabić u dvuch, abo ŭ roch, ale mycca musimo.

Dalej, musimo vykarystać leta: *kupacca ŭ im, kupacca i pływać.* Najlepš heta rabić zrańnia i ŭviečary, ale nie paškodzić i ŭ paŭdni, tolki nia treba leźci ŭ hłybokaje miejsca, bo paŭdniom moža lohka sutarha schvacić. Byŭ viedamy doktar Kneipp, jaki amal usie chvaroby lačyŭ tolki zimnoj i ciopłaj vadoj.

Što treba, kab praz skuru prachodziła pavietra, ci jnakš, kab skura była čystaja, prytaču historyčny fakt. 1800 hadoŭ nazad adzin rymski arystakrat (bahaty pan) mieŭ syna, jakoha vielmi lubiŭ. Arystakrat hety chacieŭ, kab jahony syn byŭ najpryhažejšy ŭ śviecie, dyk kazaŭ malarom vymalavać syna ŭsiaho, za vyniatkam vočaŭ, załatoj farbaj, a jak heta stałasia, dzicio pamiarło. Čamu? Farba, padobna jak brud, pazatykała ŭsie dzirački i pory, praz jakija arhanizm dychaŭ.

Nie adrečy tut budzie ŭspomnić ab abutku. Boty, čaraviki, łapci, pastały musimo mieć takija, kab jany nam nidzie nia cisnuli. Bo znanyja mazali i naciski nie pazvalajuć niaraz chadzić, a časta raśkidajucca i kančajucca sapraŭdnym kalectvam. Treba taksama, kab abutak nie prapuskaŭ vady, tady nohi buduć suchija, nia tak buduć preć i nia tak bajacca chaładu. Pry hetym nohi, a taksama i škarpetki, pančochi i anučy treba myć: kali nohi nadta paciejuć, to treba ich pieramyvać raspuščanaj farmalinaj, a to j da doktara varta źviarnucca.

*Stud. med. J. M.*

UVAHA. U Nr 4 „Š. M." u staćci p. z. „Jak być zdarovym" zakralisia nastupnyja pamyłki: „dzialnik", pavinna być (pavodle hutarki Brasłaŭščyny) „dziannik" „śmietnik"—„sumiecišča."

# Хроніка.

## З беларускага жыцьця.

Агульны Гадавы Сход Беларускага Нацыянальнага Камітэту. 22.V. с. г. адбыўся Агульны Звычайны Гадавы Сход Беларускага Нацыянальнага Камітэту ў Вільні, які складаецца з прадстаўнікоў беларускіх палітычных партыяў незалежніцкага кірунку, беларускага праваслаўнага і каталіцкага духавенства, культурна-прасьветных арганізацыяў і інстытуцыяў, і зьяўляецца найвышэйшай беларускай народнай інстытуцыяй. Агульны Сход прыняўшы да ведама справаздачы Прэзыдыюму і Рэвізыйнае Камісіі К-ту за 1931-32 год і выбраўшы новы Прэзыдыюм і Рэвізыйную Камісію на 1932-33 год, прыняў рэзалюцыі ў справе сучаснага палажэньня Беларускага Народу пад Польшчай, дамагаючыся спыненьня вайсковага асадніцтва на беларускіх землях; выкананьня польскай канстытуцыі і міжнарод-

ных забавязаньняў гвaрантуючых у межах Польскае дзяржавы правы на разьвіцьцё народнай культуры, школы, свабоду нацыянальную і рэлігійную Беларускага Народу і інш. Запратэставаў так-жа Бел. Нац. К-т проціў дэнацыяналізацыі беларускага насельніцтва камуністычнай уладай у Усходняй Беларусі—пад Саветамі. Разалюцыі гэтыя зьмясьціла „Беларуская Крыніца“ у № 22 з дня 29.V.32. і за гэта польскія адміністрацыйныя ўлады ў Вільні сканфіскавалі гэты нумар газэты.

Новы Прэзыдыюм Бел. Нац. К-ту ўфармаваўся ў наступным складзе: старшыня — рэд. Я. Пазьняк, віцэ-старшыні — В. Багдановіч і пас. Ф. Ярэміч, скарбнік інж. А. Клімовіч, сэкрэтар Т. Куніцкі.

Пачатак ліквідацыі беларускіх гімназіяў? Куратар Віленскага школьнага Вокругу „запрапанаваў“ Віленскай Беларускай Гімназіі (і Беларускай Гімназіі ў Навагрудку? ліквідавацца, як самастойным установам і перайсьці на ўтрыманьне польскага скарбу ў форме паралельных (równoległych) кляс пры польскіх дзяржаўных гімназіях.

Беларускае грамадзянства безадкладна павінна рашуча запратэставаць супроць гэтае крыўдзячае Беларускі Народ „прапазыкі“,— першага кроку да ліквідацыі апошніх дзьвух беларускіх гімназіяў.

6-тыя ўгодкі сьмерці К. Сваяка. З прычыны 6-тых угодкаў сьмерці беларускага паэта Казімера Сваяка, якія прыпадалі сёлета 6. V., у касьц. сьв. Мікалая адбылося жалобнае набажэнства за супакой ягонай душы.

„Т-ва беларускіх абсольвэнтаў вышэйшых школ“ нядаўна заснавалася ў Вільні і падало да зацьвярджаньня свой статут.

Зьезд Таварыства Беларускае Школы, які быў назначаны на 12 траўня сёл. году, не адбыўся з прычыны забароны польскіх адміністрацыйных уладаў, хоць прадстаўнікі з цэлага краю былі ўжо зьехаўшыся.

Закрылі гурток Т. Б. Ш. Апошнім часам польскія адміністрацыйныя ўлады закрылі гурток Т. Б. Ш. ў Вільні на Новым Сьвеце.

З выдавецкае нівы. У Латвіі ў Дзьвінску вышла з друку беларуская п'еса ў 3-х дзеях, са сьпевам, з жыцьця беларускай вёскі О. Ф. Сахаравай п. н. „Птушка на волі“; у Вільні вышаў з друку на правох рукапісу малітаўнік айцоў Марыянаў у Друі п. н. „Božaja Chwała“ у двух мовах: пабеларуску і палаціне, а так-жа лістоўка п. н. „Што такое Унія“.

Усе кніжкі беларускія можна купіць і выпісаць з кнігарні „Пагоня“ у Вільні, Завальная 6—10.